# Беларускі піонэр








„Чырвоная зьмена“




*(Малюнкі з лягернага жыцьця Бабруйскіх піонэраў у 1928 г.).*

Сонечная яркая раніца. Залацістыя прамені залілі двохпавярховы дом былога ўласьніка лесапільнага заводу. Цяпер там разьмясьціўся Бабруйскі акруговы піонэрскі лягер.

Вакол ціха, ціха... Раптам абуджальны сыгнал. Дом ажывіўся: пачуўся звонкі сьмех і вясёлыя жарты піонэраў.

Праз тры хвіліны другі сыгнал... і піонэры строяцца на сваіх лінейках. Адтуль—на фізкультурную пляцоўку—займацца зарадавай гімнастыкай. Пасьля мыцьцё і абціраньне халоднай вадой.

Зноў гучыць сыгнал, склікаючы лягернікаў на лінейкі... Гэта збор для традыцыйнага падняцьця сьцягу—сымбаль пачатку працоўнага дню піонэраў.

Стройна, пад гул бубна і сыгнальны сьпеў, сьцяг узьнімаецца і разьвіваецца ў паветры. .

Працоўны дзень у лягеры пачаўся. Сьнеданьне... у часе яго сьмех, конкурсы на тое, хто больш вып'е гарбаты, кпіны з „абжор".

Вольны час кожны піонэр выкарыстоўвае пасвойму. Некаторыя, „політыкі", хватаюцца за сьвежыя газэты, „чэмпіоны" на шашках „рэжуцца" за шашачнымі столікамі. Але большасьць праводзяць час на сьвежым паветры: хто як апантаны бегае за футбольным мячом, хто проста пушчае мыльныя бурбалкі. Хочацца купацца, але пагода не дазваляе. Рэдка прыходзіцца папячыся на сонцы...

Абвяшчаецца загад ісьці ў лес па дровы. Усе, за выключэньнем дзяжурных па лягеры, ідуць; у лес ідуць з вялікай ахвотай.

Там-жа, у лесе, на вольным паветры праводзяцца і гутаркі Пасьля гутаркі лес напаўняецца шумам,—гэта піонэры зьбіраюць хвораст. Скора хворасту навальваюцца цэлыя кучы. Матар'ял да вячэрняга „кастра" падрыхтован.

З лесу, з гальлём за плячыма, пад гул бубна, павольна, як караван, цягнемся да дому, дзе чакае нас гарачы полудзень.

Пасьля полудню мёртвая гадзіна і ў лягеры зноў ціха. Але сыгнал ня дасьць заспаць. Піонэры строяцца на лінейках па атрадах і праводзяць розныя заняткі: гутаркі, развучваюць гульні і г. д.

Так да вячэры. Пасьля вячэры „касьцёр".



*Хто больш зьесьць!*

На „касьцёр" ідуць бадзёра, весела, організавана. З песьнямі прыходзяць на месца, дзе заўжды распальваўся „касьцёр". Сярод вячэрняй цемры і цішыні ўсхліпвае вялікае полымя—агонь раскладзены. Але і каля агню не абыходзіцца бяз розных прыгод.

Мясцовыя дзеці, па прыкладу піонэраў, таксама недалёчка раскладваюць агонь, каб прыцягнуць да сябе публіку, якая сабралася каля піонэраў. Але гульня на касьцяных палачках піонэра Сенькі, быўшага бяспрытульнага, перацягвае да нас усіх... Далей ідзе вусная газэта, дэклямацыя, балет, гутарка і інш.

Шумна, весела. Але ноч не чакае,—трэба ісьці спаць. Каманда пастроіцца і... пашлі. Потым спуск сьцяга і праз 15 хвілін сон.

**Макс Лапан.**

## „Поэт".

*Цішыня ў хаце.*
*Сьпіць і бацька й маці.*
*Хутка певень крыкне—*
*Поўнач прапяе.*
*Васька-ж у клапотах,*
*Спаць няма ахвоты,*
*Ён далёка дзесьці*
*Думкамі снуе.*
*Думкі йдуць бяз ліку:*
*Піша верш вялікі.*
*Ды ня надта справа*
*Добра так ідзе.*

**Верш Васіля.**

**„Прышла вясна, вясёлы час,**
**І крыгі лёду таюць ўраз.**
**Зазелянее скора збожжа,**
**І нават раньняя трава.**
**Скаціна пойдзе зараз ў поле,**
**І будзе рыкаць: вясна, вясна".**

*У канвэрт заклеіў,*
*Марачку прыклеіў*
*І ўсё гэта заўтра*
*Паштальлён забраў.*
*І Васіль чакае:—*
*Што той верш спаткае?*
*Можа надрукуюць?*
*Слава будзе, брат!*
*Прычакаць ня можа...*
*Але неяк Вожык*
*У атрадзе быў іх,*
*Васілю сказаў:*
*„Ты ня псуй паперы—*
*У „Бел. Піонэры"*
*Верш такі ня зьмесьцяць,—*
*Дрэнна напісаў.*
*Лепш пішы ў часопісь*
*Пра атрад свой допіс.*
*А то вершы ўздумаў!*
*...Цішыня у хаце,*
*Сьпіць і бацька й маці.*
*Вася піша допіс*
*У сваю часопісь.*
*О, дык гэта й добра.—*
*Васька маладзец!*
*Шмат хто прыклад з Васіля бярэце:*
*У часопісь допісы пішэце.*
*Вершы вы зьмяшчайце ў сьценгазэце.*
*А навучыцеся вершы*
*Добра вы пісаць—*
*Тады іх будуць друкаваць.*

З Ь М Е С Т




Рэдколегія: **Баліцкі, Буклей, Маур, Пякарчык, Якімовіч.**
Адказны рэдактар **А. Пякарчык.**

Год выданьня 5-ты.

Да змаганьня за справу працоўных—будзь гатоў!

УМОВЫ ПАДПІСКІ:
На 1 м-ц — р. 20 к.
„ 3 м-цы— р. 60 к.
„ 6 м-цаў 1 р. 20 к.

# Беларускі Піонэр

АДРАС РЭДАКЦЫІ:
МЕНСК,
Комсамольская, 25.

ДВУХТЫДНЁВАЯ ДЗІЦЯЧАЯ ЧАСОПІСЬ, ОРГАН ЦК ЛКСМБ І НАРКАМАСЬВЕТЫ БССР

№ 9 — МАЙ — 1929 г.



# ДЗЕВЯТЫ МІЖНАРОДНЫ.

З 9-га па 26 мая дзеці ўсяго сьвету будуць праводзіць сваё сьвята — *дзевяты Міжнародны Дзіцячы Тыдзень.*

Піонэры і вучні ўсе ведаюць аб тым, што дзеці працоўных, якія жывуць у іншых краінах—іх браты. Гэта нічога ня значыць, што яны немцы, французы, ангельцы, кітайцы альбо якой-небудзь іншай нацыі. Іх імкненьні, іх задачы такія-ж, як і нашы: змагацца за новае лепшае жыцьцё, выжываць нацыянальную варожасьць. Атрады Ю. П. шлюць за межы нямецкім, кітайскім, польскім дзецям лісты і запэўніваюць іх у тым, што яны выканаюць свой інтэрнацыянальны абавязак. Аднак, наша дапамога замежным таварышом яшчэ далёка недастатковая.

Вось што піша павадыр піонэраў гор. Франкфурта ў Нямеччыне:

„Вы, таварышы, павінны нас падтрымаць. Паклапацецеся аб тым, каб асобныя піонэрскія атрады, а таксама вучні, прыслалі нам падрабязныя весткі аб іх жыцьці. Мы іх добра выкарыстаем, мы іх зачытаем усім нашым дзецям. Няхай піонэры пішуць аб школьным жыцьці, аб народнай асьвеце ў СССР, аб адносінах настаўнікаў, аб піонэрскіх організацыях, аб кампаніях, якія вы праводзіце. Прышлеце нам насьценныя газэты, фотографіі, школьныя кнігі і г. д.

Ад вас, вызваленыя браты Савецкага Саюзу, мы хочам чэрпаць сілу і бадзёрасьць у барацьбе супроць нашых эксплёататараў“.

У Міжнародны Дзіцячы Тыдзень самая галоўная наша задача гэта—абмен справаздачамі аб рабоце. *Кожная піонэрская організацыя, атрад, школа, якія трымаюць сувязь з замежнымі піонэрамі, павінны паслаць сваім таварышом справаздачы аб тым, як мы ўдзельнічаем у будаўніцтве социялізму. Не агульныя словы і разважаньні, а больш фактаў, прыкладаў, фотографій,—вось што павінна быць у гэтых справаздачах.*

Другая задача — гэта організаваць дружны адпор нацыянальнай варожасьці ў нас. Нэпман, кулак, поп, равін, ксёндз стараюцца нацкаваць адну нацыянальнасьць супроць другой і гэтым самым хочуць пашкодзіць нашаму соцыялістычнаму будаўніцтву.

Вось што пішуць нашы дзяткоры:

„У Калінкавіцкай сямігодцы вучні-беларусы пабілі вучняў-яўрэяў, аблівалі іх халоднаю вадою. У Нова-Барысаўскай школе,—піша дзяткор,—вы яшчэ пачуеце такія словы, як „жыд“, „жыдоўская морда“. Дзеці яўрэяў таварышуюць толькі з дзецьмі яўрэяў, а беларусы—з беларусамі“.

А напэўна-ж гэтыя самыя дзеці, якія падпалі пад уплыў клясавага ворага, з радасьцю будуць сустракаць замежную дэлегацыю, яны з жудасьцю слухаюць апавяданьні аб жыцьці кітайскіх дзяцей...

Да нас у БССР прыехала маскоўская дэлегацыя піонэраў знаёміцца, як жывуць і працуюць яўрэйскія працоўныя дзеці і іх бацькі. Піонэрская дэлегацыя пабудзе ў яўрэйскіх калёніях, азнаёміцца з іх жыцьцём, яна ўбачыць, што яўрэі—такія-ж працаўнікі, як і ўсе рабочыя і сяляне, яўрэі таксама-ж змагаюцца за лепшае жыцьцё. Дэлегацыя потым раскажа аб усім гэтым дома, сваім бацьком і дзецям.

Нашы піонэры і вучні павінны зьнішчыць нацыянальную варожасьць сярод дзяцей, растлумачыць гэта сваім таварышом, сваім бацьком. У Міжнародны Дзіцячы Тыдзень падумайце аб гэтым.

У МДТ піонэрскія атрады павінны падумаць і аб тым, каб больш аддаць увагі *вайсковай справе.*

І апошняя задача дзевятага МДТ—гэта як мага больш уцягнуць у піонэрскія шэрагі дзяцей працоўных.

## ПІОНЭРСКАЯ ДЭЛЕГАЦЫЯ.



У пачатку гэтага месяца да нас, у Беларусь, прыехала піонэрская дэлегацыя з усіх куткоў Савецкага Саюзу. Дэлегацыя прыехала пазнаёміцца з жыцьцём працоўных яўрэяў земляробаў, каб потым расказаць усім сваім таварышом і бацьком як жыве ў Беларусі яўрэйскі працоўны народ, каб зьнішчыць раз назаўсёды нацыянальную варожасьць да працоўных яўрэяў.

Менскія піонэры вельмі цёпла спаткалі дэлегацыю. Дзяржаўны тэатр яшчэ ніколі ня бачыў гэтулькі дзетвары, як у вечар спатканьня дэлегацыі.

На здымку—прадстаўнік дэлегацыі вітае Менскіх піонэраў.



# БЛІЗІЦЦА ЭРА СЬВЕТЛЫХ ГАДОЎ!

## ЗА ЛЕПШУЮ СУВЯЗЬ.

Кожны год з надыходам МДТ нашы атрады пачынаюць гаварыць аб сувязі з замежнымі піонэрамі. Правадыры атрадаў шукаюць, каб дзе-небудзь знайсьці матар'ял пра замежных піонэраў.

У атрадах вылучаюцца групы па сувязі з замежнымі піонэрамі, арганізуюць інтэрнацыянальныя куткі і інш.

Але пройдзе Міжнародны Дзіцячы Тыдзень і ўсё найчасьцей забываецца. Нашых піонэраў жыцьцё і праца іх замежных братоў перастае цікавіць...

У гэты МДТ павінен быць паложаны канец такой кепскай рабоце. Аб задачах інтэрнацыянальнага выхаваньня гаварыць ня прыходзіцца: яны вядомыя. Але аб формах напомніць трэба.

1) Перапіска піонэраў з замежнымі піонэр-арганізацыямі.

2) Гутаркі і чыткі аб Міжнародным Дзіцячым руху ў атрадах.

3) Арганізацыя інтэрнацыянальных куткоў і інш.

У перапісках трэба перадаваць вопыт работы піонэрарганізацыі СССР замежным дзіцячым комуністычным арганізацыям; яны-ж будуць пісаць аб жыцьці пролетарскіх дзяцей за межамі, аб рабоце піонэраў.

Ня трэба абмяжоўвацца толькі атрыманьнем і пасылкай аднаго ліста, як гэта часта бывае; перапіску трэба весьці ўвесь час, як трэба трымаць і сувязь заўсёды.

Лісты замежных піонэраў прыходзяць да нас рэдка, а дзеля гэтага трэба іх як мага лепш выкарыстоўваць. Калі атрымае атрад ліст з-за мяжы ад піонэраў, ён павінен зьняць з яго некалькі копій і паслаць іх: у школу, з якой атрад трымае сувязь, у бліжэйшую дзіцячую ці комсамольскую газэту, у комсамольскую ячэйку і абавязкова ў падшэфны вясковы атрад. Арыгінал ліста трэба каб захоўваўся ў атрадзе.

Трэба ўсюды ўзяцца за організацыю інтэрнацыянальных кутоў. Такія куткі можна організоўваць у піонэр-клюбах, піонэр-дамох, школах і г. д.

Што можа быць у кутку? У кутку зьбіраюцца ўсе матар'ялы па Міжнароднаму Дзіцячаму руху і інтэрнацыянальнай сувязі. Гэта можна рабіць у форме: выразак з газэт, падборкі фотаграфій, літаратуры і пэўнага друкаванага матар'ялу аб міжнародным дзіцячым руху, і адпаведных лёзунгаў. У інтэрнацыянальным кутку павінны быць матар'ялы, якія ў першую чаргу характарызуюць стан дзіцячага руху падшэфнай краіны (для Беларусі падшэфнай краінай зьяўляецца Нямеччына), пасьля матар'ялы кампанійскага характару, што маюць сувязь з бягучым момантам, і шмат іншых матар'ялаў у выглядзе альбомаў, выставак і г. д.

Дык давайце ажывім нашу сувязь з замежнымі піонэрамі!

*ПІОНЭРСКАЯ ДЭЛЕГАЦЫЯ*



*Прыехалі ў Барысаў.*

## НАСТАЎНІКІ СУПРОЦЬ ПІОНЭРАЎ.

*Замежным піонэрам прыходзіцца ўпарта змагацца за тое, каб прымаць удзел у школьным самакіраваньні. Школьнае змаганьне—гэта амаль галоўная работа нашых замежных таварышоў. Яны патрабуюць, каб у школе былі сталоўкі, гарачыя сьнеданьні і г. д.*

У аднэй вельмі вялікай Нью-Іоркскай школе, дзе вучні мелі, па прыкладу дарослых амэрыканцаў, свае партыі (там былі рэспубліканцы і дэмакраты) у час выбараў школьнага самакіраваньня (у Амэрыцы вучнёўскае самакіраваньне існуе) організавалася новая партыя больш рэволюцыйная. Гэта партыя назвала сябе „Хуткай партыяй“. Піонэрская ячэйка наладзіла з гэтай партыяй згоду і абяцала падтрымаць на выбарах яе кандыдатаў пры ўмове, калі „Хуткая партыя“ будзе памагаць піонэрам. Патрабаваньні піонэраў былі наступныя: організацыя ў школе сталовай, гарачых сьнеданьняў і павялічэньня клясных памяшканьняў, якія былі вельмі перапоўнены ў тых школах, дзе вучыліся дзеці рабочых. На скамейках у такіх школах, дзе трэба было сядзець аднаму—сядзелі двое, а некаторым вучням проста прыходзіцца стаяць каля задняй сьценкі. Кандыдаты „Хуткай партыі“ прайшлі (піонэры сваіх кандыдатаў ня высоўвалі, бо ў іх было мала сваіх галасоў) на выбарах і ўплыў піонэраў у школе вырас. Павялічыўся і рост піонэраў. Настаўнікі і загадчык школы спужаліся ад такога росту комуністычнага ўплыву дзяцей праз самакіраваньне, якое фактычна знаходзілася ў руках піонэраў.

Тады загадчык школы распусьціў самакіраваньне. Пачалася барацьба супроць піонэраў і „Хуткай партыі“. Але піонэры не баяцца: яны хутка зноў возьмуць верх—ужо назаўсёды!

## МЫ ПЕРАМОЖАМ!

*Усім вядома, што дзецям нашых рабочых, якія скончаць сямігодкі, можна лёгка падацца вучыцца далей. Ня тое ў капіталістычных краінах.*

*Рэдка бывае, што дзіця рабочага пападае ў сярэднюю школу.*

*Вось аб тым, як адчувае сябе пролетарскае дзіця ў школе сярод дзяцей буржуазіі, расказвае піонэр* **Вільлі** *з гораду* **Кельну.**

„Мне 15 год. Вучуся я ў гімназіі. Толькі некаторыя з дзяцей рабочых у нашай „рэспубліцы" могуць вучыцца ў гімназіі. Мае бацькі вельмі шмат плацяць за вучэньне,

Гімназія, у якой я вучуся, пахне буржуазным духам.

У клясе мяне ведаюць, як комуністага, і праз гэта мне прыходзіцца многа гаравáць. Я спрабаваў у школе організаваць піонэрскую ячэйку, але гэта аказалася немажлівым, бо сынкі фабрыкантаў, памешчыкаў і іншых багацеяў і слухаць ня хочуць пра комунізм. Каб наш настаўнік ведаў, што я піонэр— мне прышлося-б выляцець з школы. Але я не баюся іх і праводжу сваю працу.

Мой бацька служыць. Ён працуе па гадзін 10 у дзень і атрымлівае зусім малыя грошы. Нам жывецца зусім дрэнна.

Скора і ў нас улада будзе ў руках пролетарыяту, тады і мы зажывем па-вашаму. Мы пераможам!

*Вільлі".*

## У ВЯСКОВЫХ ПІОНЭРАУ.

*На Захадзе, у буржуазных краінах, гарадзкія піонэры па нядзелях часта выяжджаюць за горад у вёску. Едуць яны з сваімі песьнямі, сваёй газэткай і лістоўкамі, і падштурхоўваюць вясковых дзяцей організавацца ў піонэр-атрады. Атрады там ёсьць ужо і ў вёсцы. Мы пазнаёмімся з працай вясковага атраду, калі прачытаем наступны ліст.*

**„Таварышы!**

Ліст, які вы напісалі бэрлінскім піонэрам, трапіў к нам, хоць мы знаходзімся і ў вясковым атрадзе.



*Як прыходзіцца піонэрам за межамі расклейваць лістоўкі.*

У нашым атрадзе 28 піонэраў.

Сходы ў нас бываюць два разы на тыдзень. З прычыны таго, што ўзрост нашых піонэраў не аднолькавы, мы падзяліліся на ячэйкі (па вашаму зьвеньні).

Работа нашых ячэек наступная: выпуск насьценнай газэты, наладжваньне гутарак аб жыцьці пролетарскіх дзяцей у Кітаі, СССР і іншых краінах. На апошнім зборы атраду мы гаварылі аб Міжнародным Дзіцячым Тыдні.

З 15 па 22 мая мы раскідалі свае лістоўкі, пашыралі газэткі сярод вясковых дзяцей, расказвалі ім аб саюзе Юных Спартакаў—так называецца наша піонэрорганізацыя.

Нам дапамаглі організавацца гарадзкія піонэры.

*Піонэры атраду Букенвальдэ.*

*ПІОНЭРСКАЯ ДЭЛЕГАЦЫЯ.*



*У вагоне.*

## МНЕ ПАТРЭБНА ЗАРАБІЦЬ.

*На фабрыках і заводах, у панскіх маёнтках, на палёх у буржуазных краінах, на ўсім сьвеце працуюць мільёны пролетарскіх дзяцей. Фабрыканты і памешчыкі эксплёатуюць іх. Паслухаем, што гаворыць нам аб гэтым францускі піонэр з атраду імя тав.* **Яраслаўскага.**

„Вы прасілі аб тым, каб я напісаў аб сабе. Я працую вучнем у майстра, які выдзьмухвае шкло. У нашай сам'і 8 душ. Мяне аддалі на завод затым, каб я зарабляў і дапамагаў сям'і. Бяз гэтага нам прыходзілася часта галадаць.

Паступіў я на завод, калі мне было 13 год і працую ўжо 2 гады. Раніцою я прыходзіў на завод, мыў падлогу, калоў дровы.

Пасьля я працаваў у тым аддзяленьні, дзе робяць шклянкі, а цяпер у майстэрні, дзе робяць шпрыцы. Калі папрацуеш тры гады вучнем, дык толькі тады можаш стаць сапраўдным рабочым.

Акрамя выдзьмухваньня шкла, вучні робяць усякую брудную работу. Вельмі трудна падмятаць падлогу, асабліва ў аддзяленьні, дзе абточваюць шкло, таму што там усюды вада і наждак.

З прывітаньнем:

*Жульен Дзюпюі".*



# Новыя боты.

Апавяданьне *Кузьмы Чорнага*[1]). Малюнкі **П. Гуткоўскага.**

* * *

Даўно ўжо абветралі дарогі: пашарэла ральля і добра ўрунела жыта. Поле сумавала пад густымі ветрамі, пад радасным пахам ялоўцу. І сьледу не засталося ад курлыканьня жураўлёў і плаўнага руху гусей. Балоты жаўцелі ў хмурнасьці сініх дзён, маўчалі і шырыліся асеньняю воляй. Пахла зямля карою дрэваў, халодным карэньнем мокрага зельля з рэчных берагоў і з дна рэчак, чыстых і ціхіх, як конскае вока.

Яшчэ часам пастушкі гналі авечкі ветравым полем і туманілі неба дымам сухога картафляніку. Пробавалі сьпяваць салдацкія песьні. Пасьля маўчалі, аддаючыся задумённасьці сухое саломы і пажаўцелай травы.

І якая-ж трава маўчала на полі! І ў якіх-жа туманох вырастала яна і сохла!

Пыльнае сьцябло было ў травы! Абпыленае летняю гарачынёю, размахамі асеньняе волі. Веснавымі ветрамі, сонцам, і нястрыманасьцю дарог. Ляжалі дарогі, беглі ў сьвет. І гойдалася трава каля іх. У карэньнях травы, у земляной прытульнасьці летавалі мурашкі, поўзалі па траве і жылі. Вятры атрасалі іх з травы; дажджы палівалі траву і лашчыла яе сонца. Зьядалі траву коні, і сіні куст вырастаў і купчасьціўся зноў.

На хмурных дарогах надоўга асталявалася восень. Жыла ў неабдымнасьцях сьвету і цешылася радасьцю зямлі.

Зьбіралася ўміраць восень! І ў павольным скананьні яе хаваліся буры і кіпелі імкненьні. І ў пажоўклай траве была радасьць гэтых і ўсякіх дзён: жыла і кіпела—у пахучай зямлі, у каменьнях, у лісьці.

[1]) Урывак з роману „Зямля“.

Асеньнія туманы ўзьнімаліся і асядалі. Разыходзіліся яны па зямлі, кроплямі вады асядаючы на дрэвы, на камень. Зыкі даўно гучэлі ў туманох і ўсё чулае і радаснае, задумёнае і сумнае, жывое трымала ў сабе іх вясёлую сілу.

Дні праходзілі, мерклі і нараджаліся.

Які туман стаяў на дарозе!

Перавесіўшыся набок, каб не абмуляцца, паволі ехаў сабе конна Юрка. Толькі чуў як пахне яловец і за 5 конскіх крокаў ад сябе нічога больш ня бачыў у густых засьцілах туману. Падцмокваў губамі на каня, паплёўваў па абапал яго шыі і ўсё пачынаў цягнуць бясконцую, як зямныя дарогі, песьню:

Эй, ты, э-э-эй.
Эй, ты, э-э-эй.
Фью-ю-ю-ю.

І думаў: „колькі гэта будзе ўжо як мама памерла? Ці месяц, ці паўтара ці можа і два?“ А пасьля пачаў думаць пра каня. Глядзеў як конь трос шчупла грываю і шкадаваў яго. Пасьля пачаў разважаць сам з собою,

— Прышвы павінны быць добрымі і калі па праўдзе гэты шавец праз тры дні, як казаў кагадзе, пашые, то ў нядзелю можна будзе абуць іх. Толькі няхай ужо тады сам тата ідзе па іх. Бо на кані зноў ехаць, дык толькі абмуляюся, а на драбінах, мусіць, такі праўда, што не заедзеш. Задняе калясо і вярсту не праедзе. Хіба пацяплее на дварэ, тады босы пайду, а калі будзе гэтак холадна, дык як-жа я зайду ў гэтых маміных чаравіках. Адно ногі паабрэзваю.. Адно каб як гэта дастаць дзе трохі грошай на ваксу, дык вельмі добра было, каб паваксаваць боты. Новыя яны і так добра, але як трохі паносяцца... Невядома колькі гэта капеек вакса каштуе:

І зноў засьвістаў:

Фью-ю-ю, фью-ю-ю,
Фью-ю-ю, фью-ю-ю...

І засьпяваў:

Ой у полі-полі,
Карчомка стаяла...
Фью-ю-ю, фью-ю-ю...
Фью, фью-ю-ю...

На агародзе спаткаў яго рыжы сабака. Ішоў збоку, падбягаў, падскакваў, стараючыся лізнуць яго ў твар. Твару дастаць ня мог і аблізваў усё нагу.

— Пашоў! ня ліжыся! пашоў вон!

Сабака на момант адбягаўся, выпярэджваў каня.

— Фью, фью, на-цю-на. Хадзі сюды, куды ты. Фью, фью...

Сабака варочаўся і бег насустрач.

Каля школы таварышы ня далі яму праехаць.

— Чаму ты сягоньня вучыцца ня прышоў?
— Чаму ўрокі прапусьціў.
— Дзе ты быў, Юрка?
— Чаму твой конь такі худы?
— Куды гэта ты езьдзіў?
— Гэта твой сабака?

Ён толькі ўсьміхнуўся і ехаў далей. Юзік дагнаў яго і ішоў поплеч:

— Дзе ты быў, Юрка?
— У Чучанох.
— Чаго?
— Езьдзіў даведацца ці боты гатовы.
— Чаму-ж вы ў Чучаны аддавалі шыць?
— Там таней шыюць.
— А што, не гатовы?
— Не яшчэ.
— А калі будуць гатовы?

— К нядзелі... колькі гэта каштуе вакса?

— Ня ведаю. Мусіць дзесяць капеек.

— Не, здаецца, сем.

— Ну але, мусіць, сем. Нашто табе?

— А от як боты будуць...

— А-а-а...

— Бяз ваксы ня добра.

— Дурны ты. Дык ты можаш прасіць у Мікалая. Ён-жа кожную нядзелю боты ваксуе.

— Дык ён дасьць раз ці два, а пасьля возьме ды ня дасьць. Найлепш сваю мець.

— А вы, як перад вялікаднем калолі япрука, дык шчаціньне прадавалі ці не?

— Не, ляжыць у сенцах на бэльцы. Тата, як заколе цяпер зімою другога, дык тады разам прадасьць.

— Дык ты вазьмі трохі шчаціньня ды занясі на места прадаць. От табе і будзе на ваксу.

— А як тата агледзіцца?

— Вельмі ён пазнае.

— Дык я так і зраблю хіба.

— Зрабі.

— А калі тата запытае, дзе я ўзяў грошай на ваксу?

— Скажы, што знайшоў на месьце дзесяць капеек.

— Ня дасьць веры.

— Дасьць.

— А чаму гэта ты так рана з школы ідзеш?

— Цяпер матэматыка засталася. Няхай яна згарыць. Яна мне страшна. Я дома ўчора задач не рашыў.

— Дык уцякаеш?

— Няхай яно згарыць. Яшчэ настаўнік возьме ды пад дошку выкліча, тады хоць плач.

— А калі папытае заўтра, дзе ты з школы падзеўся быў сягоньня?

— Скажу што галава забалела.

— А ён возьме ды папытае ў цябе сёньнешніх задач. От ты тады і паскачаш перад ім.

— Не папытае.

— А калі папытае?

— Скажу што вывучыў, але праз дзень забыўся. А калі папытае ў цябе, чаму ты сёньня ня быў?

— Скажу што ботаў ня было.

— А як раней хадзіў?

— Раней цяплей было... Што ты будзеш цяпер рабіць?

— Нічога. А ты?

— І я нічога.

— Можа пойдзем куды?

— Куды?

— Куды-небудзь.

— Ну, добра.

Пад'ехалі пад хату.

— Абмуляўся.

— Трохі.

— Гэта і сабака за табой бегаў?

— Не, спаткаў на дарозе... От паабедаю і зайду па цябе. Добра?

— Добра.

— Адно будзь дома.

— Буду.

Удвух увялі яны каня ў хлеў. Конь адразу пачаў церціся губамі і шыяю аб жолаб. Пераступаў з нагі на нагу.

— Еж!

Конь нічога ня браў у рот.

— Чаму ты не ясі?

— Можа ён піць хоча?

— Як ехаў, пробаваў паіць у рэчцы.

— Піў?

— Не, нават і губ не памачыў. Бачыш, які худы. Нейкі хворы ён. Думаеш не?

— І стары?

— І стары.

— Дык што будзе?

— Нічога... Мусіць, здохне скора.

* * *

Быў той дзень утраплёны, нялюдзкі. Цягнуўся той дзень доўга.

Раней на дварэ падмарожвала. Нават зусім было ўкавала ўсю гразь і ваду. Нават сьнегам было пацярушыла трохі зьверху. А гэта зноў пусьціла, зноў цёпла стала і мокра. У садох і агародах зелянілася сьцябло пачарнелага на маразох зельля, барвенак на градох і пад дрэвамі ў садох весела распаўзаўся па зямлі. Плакалі стрэхі і моцна пахлі намоклыя няпілованыя дровы.

У дварэ, у разгароджаным агародзе пад грушаю мокла расьцярушаная салома. І нудна было Юрку глядзець на яе. Горка было і крыўдна. Сьлёзы былі ўсе выплаканы, твар быў ад іх чорны, закарэлы, з чырваньню пад вачыма. Нянавісьць да бацькі душыла яго. Бо і гаворка тая з бацькам была ненавіднаю і агіднаю.

— Гавары, гэта ты ў шчаціньні корпаўся?

Юрка маўчаў.

— Гавары, нашто шчаціньне браў?

Чуючы такую жорсткасьць бацькі, ён сказаў:

— Не, гэта ня я.

— А хто-ж гэта тут мог лазіць?

— Я ня ведаю. Можа ніхто.

— А дзе-ж дзелася больш палавіны шчаціньня?

— Не палавіна а ўсяго трохі...

І раптам, адумаўшы, папраівіўся:

— Гэта вам здалося, шчаціньне целае.

— Гавары.

— Яй-богу-ж ня я.

— Прызнавайся, сукін сын.

Бацька па волі ўзяў за вуха і пакруціў.

— Татачка, гэта ня я.

— Брэшаш ты.

— Каб я так жыў, што не.

— От я табе зараз пакажу. Тады ты пазнаеш, як красьці, а пасьля таіцца.

— Я не таюся, бо я ня браў.

— А от зараз паглядзімо.

Трымаючы яго за вуха, бацька праваю рукою расьперазаў папружку, патрос ёю ў яго перад тварам з крыкам:

— Зараз жа прызнавайся!



*Перавесіўшыся набок, каб не абмуляцца, паволі ехаў сабе конна Юрка.*

— Татачка, ня я гэта.

— Калі прызнаешся, дык менш буду біць.

— Ня я.

Бацька павольна, не сьпяшаючы, так, як абівае аб калодку сноп жыта, адвёў руку і сьвіснуў папругаю па целе. Скрозь палатняныя порткі папруга востра прыстала ніжэй сьпіны.

— А-яй, ай, татачка!

— Татачка, я больш ніколі ня буду, колькі буду жыць... Ніколі ня буду нават і ваксы купляць.

— Жартуеш, гад.

Мацьвеевы вочы гарэлі раптоўнай азьвярэласьцю, яму хацелася больш усё біць. Трымаючы ўсё за каўнер Юрку, ён раптам закрычаў:

— Дзе гэта ты порткі падраў? Гавары!



*Ты ў мяне пазнаеш, як красьці...*

Бацька трымаў за каўнэр і не пакідаў хвастаць. Выгінаючыся ва ўсе бакі, каб як вылузацца або ўхіліцца ад рэмня, Юрка енчыў:

— Татачка, ня буду ніколі больш.

Радасным голасам бацька зароў.

— Ага, прызнаўся, сукін сын, як дапякло. От я-ж цябе зараз адвучу, як чапаць тое, што да цябе не належыць. Я цябе навучу, урвіцель паршывы, гадзіна.

Юрка калаціўся, дрыжэў і выгінаўся:

— Дзе шчэць падзеў?

— Прадаў.

— За колькі прадаў?

— За восем капеек.

— Гавары праўды.

— Каб я так жыў, што за восем.

— Дзе грошы?

— Я сабе ваксы купіў.

— Ваксы? Яшчэ ваксы захацеў? Няма каб падзякаваў бацьку за новыя боты, дык яшчэ ваксы? А смурод-жа ты паршывы!

Юрка дрыжэў і галасіў.

— Гавар-ры!

І зноў пачаў біць.

— Аяй, аяй! Ня буду больш.. Самі парваліся!.. Аяй-аяй! Ааяйаяй!

І з немым крыкам рвануўся, стукнуўся галавою бацьку ў жывот і вырваўся. І зразу кінуўся ўцякаць у агарод. Ня бачыў ужо, дзе дзеўся бацька, ня чуў нічога. Прабег цераз агарод, ускочыў цераз плот у суседні сад і, ня могучы стрымаць моцнага плачу, выбег на вуліцу, прабег усю яе ўпоперак і выбег на паплавы. У новых ботах, рашпіленым кажушку і бяз шапкі.

Вецер асушыў на твары яго сьлёзы. Ён паволі ішоў парыжэлымі паплавамі, плюхаў ботамі па вадзе, моцна гаворачы:

— Чорт яго бяры, з ботамі разам. Няхай пляжацца. Няхай псуюцца, калі ён гэтакі разумны, падла гэтая старая, няўдалая, здохлая! Трасцы і хваробы яму! Будзе некалі ўміраць, папросіць, каб дараваў, ніколі не дарую. Ён у мяне здохне, як сабака. Тады ўспомніць!..

Ён нарочна выбіраў, дзе больш вады і з усіх сіл пляскаў ботамі. Адчуваў, як тонкі тавар прамок і халодзіць ногі. Так ішоў аж да самых далёкіх кустоў пад рэчкаю. Прыпыніўся на мокрым беразе, прайшоў трохі ўздоўж паўз рэчку. Вады на беразе ня было, толькі макрэла зьедзеная і зьбітая жывёлаю трава. Пакінуў гаварыць, пашоў назад, голасна і роўна плачучы. І патроху адчуў, якая гэта вялікая асалода для яго плакаць. І якая вялікая асалода ў тым, што баліць і ные зьбітае бацькам цела. Асалода ад сьлёз і болю, бо быў слабым перад бацькам, бо ня мог узяць над ім верх. Моцна ўсё плакаў. Пасьля пачало шкода рабіцца новых, спляжаных у вадзе, ботаў. Падцягнуў вышэй халявы і пашоў сушэйшым месцам. І ўжо хацелася яму захварэць цяжка, мучыцца, лежачы ў пасьцелі. І каб гэтая хвароба была якраз ад таго, што бацька біў яго. От ён будзе ляжаць хворы, пакутаваць, а бацька будзе ведаць, што гэта ад яго збойства. І будзе ўсё старацца як-небудзь загладзіць сваю вінаватасьць. Але ён, хворы, будзе адварочвацца ад яго. Ніводнага слова ня скажа яму. Пасыходзяцца людзі, будуць глядзець на ўсё гэта. Бацька будзе стаяць перад судом усіх, усе будуць гаварыць пра яго зьверскі ўчынак...

Недалёка было да вечару, калі ён зьявіўся каля свае хаты. Ціха прашоў паўз весьніцы, глянуў у двор. Пуста было і ціха. Тады ён стаў на прызбу і паглядзеў у вакно. Тры сястрычкі яго гулялі ў хаце. Качалі па зямлі два пераспелыя гарбузы. Большая трымала ў руках міску і нешта ела з яе вялікаю лыжкаю. Бацькі ня было відаць. Ён ціха ўвайшоў у двор і пакінуў на ўсялякі выпадак, адчыненымі весьніцы. Пахла на дварэ карою і мокрым дрэвам. З двара глянуў яшчэ раз у вакно. Бацькі ня было. Увайшоў у сенцы і быў насуплены, як вожык. Адчыніў дзьверы ў хату і запытаў:

— Дзе бацька?

Большая сястрычка адказала:

— Панёс шчаціньне на места прадаваць.

— Аг-га.

Вышаў на двор і сеў на бервяне пад грушаю. Слухаў, як

крычаць у агародзе вераб'і. Раптам пачуў — нехта застагнаў у хлеве і нечым застукаў. Тады кінуўся ў хлеў, заскрыпеў дзьвярыма і ўбачыў: конь ляжаў на гнаі, вышчаранымі зубамі грыз ножку ад жолаба, стагнаў і качаўся. Пярэдняя нага была падкурчана. Ён падлез пад каня і памог яму выпрастаць нагу. Аднак, конь ня ўстаў. Юрка закрычаў:

— Конь дохне!

І выскачыў з хлява. Угледзеў на вуліцы Юліка Барановіча:

— Дзядзечка, наш конь дохне!

Барановіч пашоў за ім. Увайшоў у хлеў. Штурхануў каня ў жывот, зайшоў з другога боку, прысеў, упёрся нагою ў сьцяну, плячом—у каня каля сьпіны і напяўся. Конь страсянуў галавою і пачаў паднімацца. Паднімаючыся разам з ім Юлік гукаў:

— Яшчэ, яшчэ... Эх, разам!

І памогшы каню падняцца:

— Гэта ён, сынку, закаціўся быў. Калі бо ў вас тут гной няроўна нейк. Чаму ты гэтае ямы не закідаеш гноем. Узяў-бы сахор ды закідаў-бы. Вучыся гаспадарыць, сынку.

І вышаў на двор. Заткнуў адну ноздру пальцам, чмыхануў у другую і, абцёршы нос, пачаў глядзець на суседнюю страху:

— Перакрываць трэба. Згніла.

Перавёў вочы далей па страсе:

— А тут яшчэ гады чатыры будзе трымаць. Бач, як лебяда і мох пачалі расьці. Як паўростала. Гэта—будзе трымацца.

— Тут улетку нават тры калівы жыта расло.

Барановіч не зьвярнуў увагі на гэтую заўвагу малога. Няўдала плюнуў, абцёр бараду рукавом і падаўся на вуліцу. У варотах заўважыў кучу вераб'ёў крыклівых, рухавых. Прыпыніўся, залажыў пальцы ў рукавы і пачаў глядзець на іх, павольна ўсьміхаючыся:

— Бач, як жывяцца. Недзе, падлы, схвацілі ў некага з карыта картоплі і дзяўбуць, ліха ім... Хватаюць, аж душацца. . Эйш ты!

І радасна расплыўся ўсьмешкаю:

— А тоўсты які, сыты... Жыўжыў, каб тых здох!

Тупнуў хвораю нагою і гукнуў:

— Фр-р-р!

Вераб'і раптам прапалі на той бок гумён. Нясучы на твары павольную ўсьмешку, Барановіч паклыбаў вуліцаю, разважаючы сам з сабою:

...А Юрка ў той дзень доўга сядзеў на прызьбе. Балюча і горна было яму. Пасьля пашоў ён у двор, стаяў пад грушаю і нудна глядзеў на расьцярушаную пад ёю салому. І не заўважыў, як бацька падышоў з агароду:

— Што, сукін сын, стаіш?!

Юрка адскочыў да весьніц і глядзеў адтуль на бацьку. Бацька яшчэ мармытнуў нешта і пашоў у сенцы. Юрка пашоў да Юзіка, ў двор, сеў на няпілованым дзераве пад паветкаю, сядзеў так і маўчаў. На змроку заўважыў яго там і падышоў да яго Юзік.

— Чаго ты сядзіш тут?

— Так сабе.

— Хадзем на вуліцу.

— Не хачу.

— Чаму?

— Так.

Юзік падышоў бліжэй.

— Чаму ў цябе твар заплаканы?

— Нічога.

— Скажы чаму?

— Тата біў.

— За што?

— За ваксу.

— Ну! А твой-жа тата сягоньня прадаў шчэць і прапіў.

— Як ты ведаеш?

— На месьце бачыў яго п'янага. Бачыў, як ён і шчэць прадаваў.



— *Чаго ты сядзіш тут?*

— Хлусіш.

— Яй-богу. Усе бачылі.

Юрка вылез з-пад паветкі, шморгануў па твары рукавом. Пашоў на вуліцу.

Доўга Юрка на змрочнай вуліцы глядзеў, як прабіваліся скрозь хмары ружовыя істужкі захаду, і баяўся ісьці ў хату.



# НАША ГАЗЭТА

№ 9 Насьценная газэта чытачоў „Бел. Піонэра“ № 9


## ДЗЕНЬ ДРУКУ.

### Чаму праводзіцца дзень друку?

Дзень друку прыпадае на 5-е мая. Звычайна гэты дзень пашыраецца на тыдзень ці два тыдні—„Двухтыднёвік друку“. Гэтак будзе і сёлета.

Друк зьяўляецца вельмі магутным сродкам зьяднаньня працоўных наўкола найважнейшай іх работы – будаўніцтва соцыялізму. Друк перадае ў шырокія гушчы лепшы вопыт работы, друк падганяе гультаёў, бічуе бюрократаў і гэтым памагае нармальна працаваць. Сотні тысяч працоўных, ад варштату і ад плуга, прымаюць удзел у друку: яны пішуць у газэты пра сваю работу, яны праз газэту дабіваюцца паляпшэньня працы. Газэты чытаюцца міліёнамі працоўных; кожная заметка ў газэце дарма не праходзіць для тых, аб кім пішацца. Газэта выносіць на грамадзкі суд усе нашы балячкі, усе памылкі, каб іх колектыўна выправіць, зьнішчыць.

У „Двухтыднёвік друку“ чытачы, дапішчыкі і ўсе працоўныя падводзяць вынікі працы друку за год, яшчэ цясьней згуртоўваюцца наўкола пролетарскага друку.

### У нас ёсьць свой, дзіцячы друк.

Дзіцячы друк мае таксама свае задачы — дапамагаць выхоўваць новага чалавека новай соцыялістычнай грамады. Аб гэтых задачах усім вядома. Але ці сапраўды друк выконвае такія вялікія абавязкі і ці ўсюды друк карыстаецца пашанай з боку нашай дзетвары? Пэўна-ж ня зусім так: ёсьць яшчэ многа непаразуменьняў у гэтым, шмат яшчэ хто з дзяцей ня ведае пра значэньне свайго друку, ня чытаюць дзіцячых часопісяй, газэт і кніжак.

Вось-жа ў „Двухтыднёвік друку“ піонэрам і вучням трэба сур'ёзна задумацца аб гэтых пытаньнях. У першую чаргу, трэба праверыць, ці чытаецца і выпісваецца ў нашых школах і атрадах часопіс „Беларускі Піонэр“ і „Пионерская Правда“. **Той атрад ці школа правядзе лепш сьвята друку, якія больш пашыраць часопісі, газэт і кніжак сярод дзетвары.** Усюды, на вечарох, на лекцыях, на зборах, стаўце пытаньні аб пашырэньні дзіцячага друку, дабівайцеся, каб усе чыталі свой дзіцячы друк.

### Незабывайцеся і пра бібліотэкі.

Шмат якія вучні і піонэры лічаць патрэбным чытаць толькі падручнікі. Але-ж вядома, што падручнік шмат чаго ня дасьць у сэнсе разьвіцьця. Той, хто хоча добра разьвівацца, той, хто цікавіцца жыцьцём людзей, прыроды і працаю людзей, ён павінен чытаць яшчэ і шмат чаго іншага. У першую чаргу ён павінен чытаць кніжкі. Праверце, ці ёсьць у вас досыць кніжак у вашых бібліотэках. Праверце, ці добрыя кніжкі ў вашых бібліотэках, пастарайцеся папоўніць іх. Пастарайцеся зацікавіць дзетвару кнігаю, організуйце выстаўкі кніг, карнавалы і інш.

### Часопіс памагае ў працы.

Як толькі організаваўся наш атрад, мы ўслед-жа выпісалі сваю часопіс „Беларускі Піонэр“. Часопіс мы чыталі сярод *неорганізаваных дзяцей*, якія вельмі зацікавіліся ёй. Гэта дапамагло нам уцягнуць шмат дзяцей у атрад.

М-ка Шацк. **Сарноў А.**

**ДЗЯТКОРЫ!**

**Пішэце, як піонэры працуюць на гаспадарцы.**

### ПАМАГАЕМ САЎГАСУ.

*Мы дасталі ў бліжэйшым саўгасе „Бальшавік“ пару коняй і паехалі зьбіраць па мястэчку попел. Увесь попел завезьлі ў саўгас.*

**Пучынскі.**

м. Узда, Меншчына.

### Шчыра дзякую за попел.

*(Ліст селяніна Шыманскага).*

**Я даведаўся, што попел прыносіць вельмі вялікую карысьць у гаспадарцы, што попелам можна ўгнойваць зямлю. І вось я паехаў аднойчы ў Менск шукаць попелу. Акруговы аграном паслаў мяне ў Наркамфін да піонэраў.**

**У Наркамфіне я набраў 50 пудоў попелу, які сабраны піонэрамі. Я вельмі зьдзівіўся, што піонэры зрабілі такую вялікую работу для падняцьця ўраджайнасьці.**

**Шчыра дзякую піонэраў за попел.**

Селянін **Шыманскі Ф.**

пасёлак „Вялікае поле“, Заслаўскага раёну.

### ХТО ЛЕПШ ГАСПАДАРЫЦЬ?

*Нашы зьвеньні наладжваюць свае градкі. Зьвяно, якое лепш апрацуе сваю градку і зьбярэ большы ўраджай, атрымае прэмію.*

*Таксама кожнае зьвяно закладае цёплы расаднік.*

*Пры школе разам з атрадам мяркуецца закласьці вопытна-паказальны агарод.*

*Сёлета наш атрад вывесіў 15 шпакоўняў.*

**П. Ш.**

Вільшчына, Койданаўскі раён.

### У карысьць Заходнім братом.

Наш атрад імені Бухарына на агульным сходзе пастанавіў дапамагчы тым заходнім братом, якія за справу працоўных пакутуюць у турмах.

Піонэры з вялікай зацікаўленасьцю ўзяліся за гэтую справу.

Вынікам працы зьяўляецца тое, што мы сабралі 5 р. 60 к. грошай, якія пасылаем у карысьць заходнім братом.

**Ландарскі Ал.**

м. Ляды, Аршаншчына.



*Практычныя заняткі па фізыцы: вывучэньне электрычнай машыны.*

### Зноў вясна...

*Зноў вясна... І гай зялёны*
*Кліча, вабіць да сябе,*
*І крычаць штодзень вароны*
*На адноўленым гняздзе.*
*Зноў знаёмыя дарожкі,*
*Лес, паўмежкі, сенажаць,*
*Зноў маўклівыя валошкі*
*З жыта ціхенька глядзяць...*
*Зноў у кветках звоняць мушкі,*
*Скачуць зайкі ля дарог,*
*І крычаць пужліва птушкі*
*У зялёных паплавох.*
*Зноў вясна. І луг зялёны*
*Ў дзэйных кветках патануў,*
*А на стоптаных загонах*
*Плуг вывозіць баразну.*

**С. Ш—ч.**

### *Няма чаго чытаць.*

**У нашым мястэчку ёсьць комсамольскі клюб, пры клюбе ёсьць бібліотэта для комсамольцаў. А піонэрам і вучням, якія хочуць пачытаць сваю кніжку, прыходзіцца хадзіць за тры вярсты ў Новую-Тухінь. Ці ня варта было-б набыць у комсамольскую бібліотэку і дзіцячай літаратуры?**

**Міроненкаў І.**

м-ка Расосна, Аршаншчына.

### КНІГУ—ВЁСЦЫ.

Бяседавіцкі атрад з посьпехам пашырае кніжкі сярод сялян. Кніжкі бяруцца ў мясцовых кніжных крамах і прадаюцца піонэрамі сялянам. Усе кніжкі, што прадаюцца сялянам, з танных выданьняў, большасьць на сельскагаспадарчыя тэмы. Ужо прадалі дасюль некалькі дзесяткаў кніжак на суму 12 р.

Другім атрадам трэба ўзяць прыклад з нашай работы.

**Лупікаў.**

в. Бяседавічы, Хоцімскі раён.

### ЮНЫЯ БУДАЎНІКІ



*Цэнтральны дом юных піонэраў у Маскве. У доме працуюць розныя гурткі.*

*На здымку электра-тэхнічны гурток за працай. На задняй частцы здымку модэль электрыфікаванай вёскі.*

### ЦІ-Ж ГЭТАК АБСЬЛЕДВАЦЬ?

Троха ня ў поўнач 18 сакавіка прыехаў да нас прадстаўнік райбюро абсьледваць атрад. Гэты прадстаўнік (Каткоў) загадаў неадкладна склікаць сход атраду. Сяк-так да гадзіны 12-ай ночы сабралі два дзесяткі дзетвары.

На сходзе Каткоў увесь час драмаў, а потым паведаміў, што над нашым атрадам узяў шэфства фарпост сямігодкі. Што-ж вельмі добра! Гэта піонэраў абрадавала. Якія спалі, дык і тых разбудзілі такія прыемныя словы!

Але... усё гэта былі словы. „Абсьледвацель“ толькі, дзякуй яму, сабраўся з духам прыслаць копію свае „працы“, дзе напісана тое, чаго ніколі ў атрадзе і ня было.

**„Вясковы“.**

в. Падбярэзьзе. Коханаўскага раёну.

### СУВЯЗЬ НАЛАДЗІЛАСЯ.

У нашым мястэчку ёсьць дзьве сямігодкі—беларуская і яўрэйская. Доўгі час між вучнямі гэтых сямігодак ня было ніякае сувязі.

Сёлета гэта справа зрушылася з месца. Ужо адбыўся агульны вечар сямігодак, які прайшоў досыць цікава і карысна для вучняў.

**Пэўзнэр З. і Гінзбург М.**

Дуброўна, Аршаншчына.

### НЕ ПАСЛАБЛЯЦЬ ІНТЭРНАЦЫЯНАЛЬНАГА ВЫХАВАНЬНЯ!

Мы на кожным кроку сустракаемся з фактамі, якія сьведчаць аб тым, што атрады ня добра праводзяць інтэрнацыянальнае выхаваньне.

Так у атрадзе пры шклозаводзе былі заўважаны такія гутаркі сярод піонэраў:—яўрэі ня любяць цяжкой працы, яны гультаі і з прычыны гэтага ня йдуць працаваць на вытворчасьць, а ідуць у савецкія ўстановы.

Што гэта?—Хлусьня, бо яўрэяў-рабочых у Беларусі мала менш, чым беларусаў.

Чаго варты і яшчэ такі факт, які меў месца ў чыгуначным атрадзе. Піонэр-пераростак, якога не перадалі ў комсамол за недысціплінаванасьць, скардзіцца сваім знаёмым, што яго ня прынялі ў комсамол толькі за тое, што ён, бачыце, не яўрэй.—„Туды толькі яўрэяў прымаюць“.

Мы ня хочам сказаць, што інтэрнацыянальная работа ў нас зусім не праводзіцца. Некаторыя атрады і школы (на жаль, іх яшчэ ня шмат) могуць пахваліцца дасягненьнямі ў гэтай галіне.

Так фарпост 4-й школы рэгулярна вядзе перапіску з пролетарскай школай у Нямеччыне. Нядаўна атрымалі ліст, у якім нямецкія вучні пішуць, што да сьвята МДТ прышлюць фарпосту чырвоны сьцяг, як падарунак.

Некаторыя атрады (база Політэхнікуму і інш.) наладжваюць інтэрнацыянальныя вечары. У Політэхнікуме піонэры зрабілі сабе гарнітуры дзяцей розных нацыянальнасьцяй СССР (украінцаў, грузін, туркмэнаў і т. д.) і выступалі на сцэне ў гэтых гарнітурах.

Але, паўтараем, гэта работа навакол пытаньняў зьнішчэньня нацыянальнай варожасьці і заснаваньня сувязі з піонэрамі ў іншых савецкіх рэспубліках і за межамі праводзіцца яшчэ ўсё-ж слаба.

Вось чаму сёлетні МДТ павінен даць інтэрнацыянальнаму выхаваньню моцны штуршок, пакласьці пачатак сталай і сыстэматычнай працы ў гэтым напрамку.

**Павадыр.**

### МАЛАДЫЯ АСЬВЕТНІКІ.

У нашым раёне ёсьць некалькі лікпунктаў для старых сялян. У гэтых лікпунктах працуюць вучні нашай Зэмбінскай сямігодкі. Праца ідзе добра. Ужо шмат старых сялян навучыліся пісьменнасьці.

**Я. Зомэрфэльд.**

м. Зэмбін, Барысаўшчына.



**ДЗЯТКОРЫ!**

**Паведамляйце нас, як рыхтуюцца атрады да летняй работы.**

# Сейце карняплоды!

## БУРАКІ.

Буракі, якія сеюць у полі для корму скаціны, завуць кармавымі.



Бурак кармавы „Арнім-Крывенскі".

Сталовыя-ж буракі звычайна сеюцца ў агародзе для патрэбы чалавека.

Каб мець добры ўраджай кармавых буракоў, *трэба сеяць іх на добрай зямлі*. На дрэннай зямлі буракі даюць ураджай 800 п. з дзесяціны, на добрай-жа зямлі—каля 2.000 пудоў. Дзеля гэтага зямлю пад буракі заўсёды трэба выбіраць лепшую.

Найлепей буракі сеяць пасьля жыта, пад якое ўгнойваецца поле. Калі такой зямлі няма, то трэба пад буракі падвезьці гною, бо буракі надта любяць добра ўгноеную зямлю. Вызначаную для пасеву буракоў зямлю трэба з восені ўзараць, і ворыва павінна быць глыбейшым, чымся гэта робіцца пры пасеве збожжа. Пад буракі трэба араць на 4—5 вяршкоў глыбінёю.

Калі поле пад буракі ўгнойваецца, то таксама лепей гной вывезьці з восені і заараць, а вясною поле скародзяць і мяшаюць на поўную глыбіню. Пасьля другога скароджаньня ўжо можна сеяць буракі.

Перад пасевам трэба глядзець на якасьць насеньня.

Добрае насеньне павінна мець сьветла-жоўта-буры колер; цёмнабуры колер паказвае, што насеньне папсутае, а брудна-зялёны колер паказвае, што насеньне недасьпелае. Перад пасевам насеньне павінна быць праверана на ўсходжасьць, дзеля чаго трэба насеньне прарасьціць.

Як вызначаць усходжасьць насеньня, пісалася ў нашай часопісі.

Сеюць буракі рукамі або ручным сяўнікам. Калі сеюць рукамі, то на полі перш робяць радкі на 10—12 вяршкоў адзін ад другога. Бывае, што насеньне буракоў перад пасевам мочаць у вадзе, але надта раіць гэта няможна. Для прарастаньня насеньне буракоў патрабуе шмат вады, у 120—160 раз больш, чым важаць самі клубочкі.

Сеюць буракі, калі зямля добра выграецца, што бывае пасьля пасеву раньніхяравых хлябоў. Апроч пасеву, буракі можна садзіць і расадай, што асабліва каштоўна на сугліністых глебах, на якіх пры сухменях зьяўляецца цьвёрдая скарынка і малады расток буракоў ня можа з-пад яе вылезьці і дарма гіне.

Пасьля засеву поле трэба даглядаць. Вядома, што буракі ўзыходзяць ня скора, праз 12—14 дзён, а пры сухой пагодзе і праз тры тыдні. За гэты час поле зарастае травою, якую трэба зьніштожыць. Каб прыметны былі радкі буракоў, разам з буракамі высяваюць на дзесяціну 5—6 фунтаў аўсу, які ўзыходзіць скора, што дае магчымасьць бачыць радкі з буракамі.



Бурак Обэрндорфскі чырвоны.

Як толькі ўзыдуць буракі, трэба выпалаць усю траву з радкоў, гэта работа праводзіцца толькі рукамі. Пасьля полкі зямля паміж радам прытоптваецца і робіцца другое матыкаваньне. Як толькі буракі падрастуць і будуць мець па 3—4 лісточкі, то абавязкова трэба лішнія вырваць, бо ў іншым разе буракі будуць расьці дрэнна і ўраджай будзе невялікі. Трэба гэтак-жа ведаць і як рабіць прарыўку.

Калі рост буракоў ідзе добра дружна, дык адразу можна прарываць так, каб расьліна ад расьліны была на горшай зямлі на 5 вяршкоў, а на лепшай—на 7 вяршкоў.

У тым-жа выпадку, калі ўсходы бываюць слабыя, дык прарыўку лепш рабіць два разы. Першы раз на 3—4 вяршкі, а другі раз, як расьліны паправяцца, зрабіць прарываньне цераз адну расьліну, г. зн. кожнае другое каліва вырваць і, такім чынам, застануцца расьліны на 6—8 вяршкоў адна ад другой. Пасьля прарываньня поле матыкуюць трэці раз, пасьля чаго буракі пачынаюць добра расьці і закрываюць сабою радкіі

Апроч матыкаваньня, часам робяць асыпку буракоў. Гэта бывае тады, калі пасеялі такі сорт буракоў, што карані іх высока вырастаюць па-над зямлёю і, калі іх не асыпаць зямлёю, дык карані становяцца дзеравяністымі. У сухія гады, каб не перасушыць глебу, асыпаньня рабіць ня трэба.

## БРУЧКА.

Зямля пад бручку гэтак-жа, як і пад буракі, павінна быць добра выраблена і ўгноена. Выраб глебы робіцца такім-жа парадкам, як і пад буракі. Бручка добра расьце на суглінках і добра ўдаецца на вільготнай зямлі, на якой буракі растуць дрэнна. Пасеў бручкі ў полі найлепш рабіць расадай. Расаду сеяць на градах тыдняў за 2—3 да перасадкі ў поле. З пасевам бручкі пазьніцца ня трэба, бо позны пасеў дае меншы ўраджай.

Садзіць трэба радамі на 10—12 вяршкоў адзін ад другога, а каліва ад каліва ў радку на 6—8 вяршкоў. Садзяць яе так: расада з грады выбіраецца асьцярожна, каб не папсаваць карэньняў, дзеля чаго града паліваецца вадою. На полі садзяць яе ў вызначаныя рады. Уздоўж радка робяць ямачкі загостранымі калочкамі, а каб да гэтых калочкаў не прыліпала зямля, трэба загостраны канец абабіць бляхай.

Садзіць расаду трэба ня глыбей, як яна сядзела на градзе, і надта трэба пільнавацца, каб не загіналіся карані.



Бручка Арнім-Кравенская круглая.

Перасадку ў полі найлепш рабіць у хмурную пагоду, а пасьля пасадкі трэба добра паліць вадою. Пры сухой пагодзе паліваць трэба 2—3 разы на працягу 2—4 дзён пасьля пасадкі. Паліваць трэба заўсёды пад вечар. На месца расады, якая завяне і ня прымецца, трэба пасадзіць новыя калівы. Догляд за бручкай такі самы, што і за буракамі—гэта матыкаваньне і полка травы. Звычайна матыжаць два разы. Часамі ро-

бяць асыпку тады, калі расьліны вырастуць да 4-х вяршкоў. Але ў сухія гады, каб не перасушваць глебу, асыпаць ня трэба. Асеньніх марозаў бручка не баіцца. Ураджайнасьць бручкі да 2000 п. Лепшыя сарты бручкі: швэдзкая, белая гофманская, памэранская, круглая арнім-крывенская.

### РЭПА (ТУРНЭПС).

Глеба, апрацоўка і ўгнаеньне патрэбны такія-ж, як і для бручкі. Сеюць рэпу выключна насеньнем; расада пры перасадцы прападае. На 1 дзесяціну высяваюць 8—12 фунтаў насеньня; добрае насеньне дае з 100 штук зернят 95 расткоў і прарастае праз 3 дні. Сеяць



Рэпа Остэрзундомская.

рэпу лепей гусьцей. Для поўнай сьпеласьці рэпы трэба 3—4 месяцы, а таму сеюць яе позна, не раней 25 мая і не пазьней 10 чэрвеня. Раньнія засевы часта псуюцца земляной блыхой. Сеюць рэпу радамі на 10 вяршкоў адзін ад другога. Насеньне закрываюць няглыбока—на $^1/_2$—$^3/_4$ цалі. Усходы зьяўляюцца праз 5—6 дзён і догляд за імі такі-ж, як догляд за ўсходамі буракоў. Ураджайнасьць рэпы высокая—да 2000 і болей пудоў з дзесяціны.

Рэпа заслугоўвае ўвагі і тым, што для поўнай сьпеласьці яе патрэбна 3—4 месяцы, з гэтай прычыны можна сеяць рэпу пасьля збору раньняга збожжа, напрыклад, выкі на зялёны корм. Гэтак-жа можна рэпу сеяць вясной па жыце, а ўраджай зьбіраць пасьля збору збожжа, таму рэпу і завуць пажніўнай культурай. Лепшымі сартамі рэпы будуць:

1) Бартфэльцкі. Бацьвіньне слаба разьвіта. Корань жоўты, доўгаваты, напалову сядзіць у зямлі. Мякаць жоўтая, надта смачная.

2) Остэрзундомскі. Бацьвіньне вялікае. Корань у надземнай частцы фіолетавы, у падземнай—белы, падоўжаны і напалову сядзіць у зямлі. Мякаць белая, на смак—крыху гаркаватая.

3) Нарфольк. Бацьвіньне вялікае. Корань фіолетавы, форма круглаватая, у зямлі сядзіць няглыбока. Мякаць белая, сакавітая на смак—сярэдне.



Рэпа Нарфольк—круглая, белая.

**Аграном.**



*МАЛАДЫЯ ДАСЬЛЕДЧЫКІ.*

# КАПУСНЫ МАТЫЛЁК.

Сонейка з кожным днём пасылае да нас усё больш і больш праменьняў.

Яно разбудзіла сваімі цёплымі праменьнямі расьлінкі ад доўгага зімовага сну. Кветачкі, як зорачкі, рассыпаліся па зялёных поплавах. Дрэўцы ўбраліся ў маёвую вопратку і з гонарам пазіраюць навокал. У паветры пачуліся срэбраныя песьні птушачак.

— „Вясна прышла!“ — сказала прырода.

— „Вясна прышла!“—хорам адгукнуліся дзеці. Ім ня хочацца больш сядзець у душных цесных хатах...

Як прыемна цяпер на вуліцы. Усюды адчуваецца жыцьцё.

Вось белы матылёк пырхае ў паветры. Піонэры: Нэля і Вася, вяртаюцца да хаты з свайго клюбу. Колькі там дзяцей! Як там весела! Яшчэ і зараз адчуваюць яны ў сваіх вушах заразьлівы сьмех Ядзі... Нэля заўважыла матылька.

— Вася, глядзі, глядзі... матылёк.—Матылёк прыкаваў да сябе ўвагу дзяцей. Яны глядзяць на яго і ня могуць наглядзецца. Ветрык гуляе з іх мяккімі кучаравымі валосікамі, але дзеткі не адчуваюць гэтага. Сонейка, жартуючы, асьляпіла часова іх сіненькія вочкі. Матылёк падляцеў да абсыпанай кветкамі яблынькі і схаваўся там...



Самец капуснай бялянкі.

— Пойдзем, Нэлька, і бліжэй пазнаёмімся з ім,—сказаў Вася.

Дзеці прыпынілі дыханьне і на дыбачках падышлі да дрэўца. Шмат часу патрацілі яны, пакуль убачылі на галінцы, паміж ружовымі кветкамі, свайго хлусьлівага знаёмца. Крыльцы, як зложаная кніжачка, тарчалі ў яго за плячыма. Дзеці дагадаліся, чаму цяжка было адшукаць яго там.

— Нэля, чаму гэта ён засоўвае сваю галоўку то ў адну, то ў другую кветачку,—сказаў шопатам Вася.

— Ён, мусі, шукае там страву, а можа нюхае прыемны пах кветачак,—адказала сястра.

Праз некалькі хвілін матылёк зноў пырхаў у паветры. Лётаў ён, туляючыся з боку ў бок. Гэта надта падабалася дзецям. Вася сказаў:

— Ён хоча паказаць нам, як хораша ўмее лётаць.

А вось тут адбылося надзвычайнае здарэньне. Верабей пагнаўся за матыльком. Апошні яшчэ больш пачаў кідацца з боку ў бок. Не пасьпелі апамятавацца дзеткі, як матылька ня стала. Толькі чатыры беленькія крыльцы былі падхоплены ветрам; пакружыліся над зямлёй і зараз-жа зьніклі ў густой траве. Шкада стала беднага матылька. Нэлячка ледзь не заплакала. Яна скрозь сьлёзы сказала:

— Вось, які злы верабей. Гэта мне ніколі і на думку ня прыхо-



Самка.

дзіла. За што ён зьеў беднага матылька. Ён ніколі не зрабіў нічога дрэннага.

— Я, як падрасту, куплю сабе стрэльбу і перастраляю ўсіх вераб'ёў, ды наогул перастраляю ўсіх птушак,—з захапленьнем сказаў Вася.

— Васька, наловім матылькоў, панясем іх дахаты і пасадзім на вакно, дзе стаяць маміны вазоны. Матылькі не ўцякуць адтуль, бо фіранка шчыльна закрывае вакно і птушкі для іх ня будуць шкоднымі.

— А чым-жа мы будзем карміць іх?—запытаў Вася.

— Мы ўсё аддамо ім. Мы падзелімся апошнімі кавалачкамі цукру, апошняй кропляй варэньня.

Вось яны ўбачылі двух матылькоў, якія сашчапіліся паміж сабой біцца. Гэтыя матылькі так заняты былі сваёй справай, што не заўважылі, як Вася накрыў іх шапкай.

Адзін з гэтых матылькоў быў трошкі большым. Зараз можна пералічыць і крыльцы, і ножкі, і вусікі, і нават тыя зарубачкі, якія ёсьць на брушку. У абодвых матылькоў кончыкі крыльляў пярэдняй пары былі чорненькія. Апрача гэтага дзеці заўважылі, што ў большага матыля на пярэдніх крыльлях ёсьць па дзьве чорных кропачкі.

— Чаму гэта не аднолькавая ў іх ахварбоўка?—запыталася Нэля.

— Ня ведаю,—адказаў Вася.

— Глядзі, Нэля, які ў яго рот. Там ёсьць нейкая скручаная пружынка.

— Гэта хабаток—адказала сястра.

У гэты час адзін з матылькоў, як быццам знарок, расправіў свой хабаток і зараз зноў скруціў яго.

— Ага, цяпер я ведаю, сказаў Вася, чаму ён на яблынцы пасоўваў галоўку, то ў адну, то ў другую кветачку. Ён смактаў гэтым хабатком салодкі сок.

У гэты дзень дзеці не адыходзілі ад вакна. Нэля палажыла матылькам кавалачак цукру, а Вася ўісподачку паставіў ім салодкага вішнёвага варэньня. Але госьці чамусьці не дакраналіся да яды.

— Мамачка, чым карміць нам матылькоў, каб яны не памерлі з голаду?

Мама і сама добра ня ведала, што адказаць, але дала разумную параду.

— Панаглядайце, дзеткі, на агародзе, на якія расьліны больш усяго садзяцца матылькі і пасадзеце гэту расьліну ў вазоны да матылькоў.

Дзеці цэлы дзень заняты былі сур'ёзнай працай. Яны сачылі за матылямі на агародзе. Заўважылі, што яны садзяцца ахватней за



Галава капуснай бялянкі.

ўсё на толькі што перасаджаную капусту.

Дзеці прынесьлі з рассадніку некалькі каліў капусты, пасадзілі іх у вазоны і старанна іх палілі. Матылі як быццам павесялелі. Яны ахвотна пачалі садзіцца на капусту. Але хутка нашы матылі зноў пачалі марнець. Праз пару дзён яны памерлі. Дужа шкада было дарагіх гасьцей.

Каб менш было няпрыемных успамінаў пра матылёў, дзеці парашылі выкінуць вон нават вазоны з капустай. Але Васю зацікавіла, што рабіў большы матыль, калі ён хаваўся пад лісьцё. Вася памятаваў, што ў гэтага матыля на крыльлях чорненькія кропачкі.

— Глядзі, Нэля,—сказаў Вася,— што гэта за жоўценькія кропачкі на ніжнім баку лісьця? Дзеці доўга ўважліва разглядалі гэтыя кропачкі. Нэлі расьціснула нават адну кропачку пальцамі і сказала:

— А я ня ведаю, што гэта такое. Яны падобны на маленькія бутэлечкі. Пайду лепш папытаюся ў мамы, што гэта.

— Пачакай,—сказаў Васька,— давай перш пералічым, колькі тут.

Нэля згадзілася. Пачалі лічыць. Гэтыя кропачкі так спрытна былі складзены, што ўтварылі як быццам люстэрку. У адным люстэрачку налічылі да 70 кропак, а люстэрачак такіх было 5.

— Мама, што гэта за люстэрачкі,—мармытала Нэлі.

Мама ўважліва паглядзела сказала:

— Гэта-ж яечкі, з якіх з часам выйдуць маладзенькія матылькі.

— Дык мы зможам выпладзіць іх—у адзін голас запыталі дзеці.

— Зможаце, калі ўважліва будзеце даглядаць іх. Але вы вазьмеце сшытак і запісвайце ўсе тыя зьмены, якія будуць здарацца з яечкамі.

Адказ мамы абрадваў дзяцей. Яны пасьля гэтага з асаблівай увагай пачалі даглядаць вазоны з капустай. Кожны дзень палівалі, рыхлілі зямліцу, пераносілі на тое вакно, дзе лепш сьвеціць сонца. Вася падрыхтаваў сшытак, які разьлінеіў належным чынам. Кожны дзень назіралі дзеці за яечкамі, а запісы ў сшытку назіраньняў вёў сам Вася. Дзеці захоплены былі гэтай цікавай працай.

Адзін раз Вася сказаў:

— Вось цяпер я даведаўся, чаму нашы матылькі былі не аднолькавай вялічыні і мелі розную афарбоўку крыльляў.

— А чаму?—запыталася Нэля.

— Мы злавілі самца і самку, якая нясла яечкі. Яна большая і мае на пярэдняй пары крыльляў дзьве чорненькія кропачкі. Памятаеш, яна ахвотна садзілася на



Яйкі капуснай бялянкі.



Кукалка капуснай бялянкі.

капусту і трымала сябе там неяк асабліва. Нэля згадзілася з гэтым тлумачэньнем.

На 10-ты дзень здарылася страшэнная няпрыемнасьць: выпладзілася вялікая сям'я маленькіх брыдкіх чарвей, якіх ім часта даводзілася бачыць на капусьце.

Здарэньне гэта было запісана ў сшытак. Дзеці пазвалі маму і пераказалі ўсё пападрадку. Мама паглядзела на чарвей, засьмяялася і сказала:

— Пачакайце, дзеткі, матылькі будуць. Але вы большую частку гэтых вусьняў выкіньце, бо ў вас ня хопіць для іх яды.

— Мама, а што яны будуць есьці,—запытаўся Вася.

— А вы, дзеткі, зараз-жа ўважліва паглядзеце на іх, дык убачыце.

Пачалі сачыць дзеці за вусьнямі і хутка ўбачылі, як некаторыя з іх елі лушпінкі тых яечак, з якіх яны вылупіліся, а другія пачалі грызьці тоненькую скурачку з лісьцікаў капусты. Гэта ўсё сваечасова запісваў Вася ў сшытак назіраньняў. Вусьні борзда расьлі. На 6-ты дзень з імі здарылася нешта асаблівае, яны як быццам заснулі. Тут можна было заўважыць, як кожны вусень прымацаваў сябе павуціньнем да лісьця капусты. Цэлыя суткі вусьні ляжалі нярухома.

На другі дзень дзеці заўважылі, што вусьні з вялікай прагнасьцю пачалі есьці лісьце капусты. На тых мясцох, дзе раней былі прымацаваны вусьні, засталіся толькі іх скуркі. Самі-ж вусьні афарбаваліся ў больш цёмны колер. Дзеці азнаёмілі з гэтым здарэньнем маму, якая сказала:

— Гэта-ж вусьні ліняюць. Яны так вырасьлі, што іх цела не зьмяшчалася ў цеснай скурцы.

Вася ўсё гэта запісваў у свой сшытак.

Праз 5 дзён з вусьнямі зноў здарылася тая самая ліанька. Прайшло яшчэ 4 дні.

— Вася,—сказала Нэля,—падлічы ў сшытку, колькі разоў вусьні ліналі.

Вася паглядзеў у сшытак і адказаў:

— Усяго—4 разы.

— Мінула і яшчэ два дні. Вася і Нэля стаялі каля вакна, іх увага была аддадзена вусьням.

— Глядзі, Нэля,—сказаў Вася,—нашы вусьні чамусьці пакідаюць капусту. Яны поўзаюць па вакне, рамах і фіранцы.

Нэля ўважліва пачала сачыць за паводзінамі вусьняў, заўважыла нешта цікавае і паказала брату:

— Вось адзін вусень павесіўся на павуцінцы, а другі блытае сябе павуціньнем, мусіць хоча павесіцца.

К вечару шмат вусьняў вісела нярухома. Большасьць з іх прымацавалі сябе да рамы вакна, віселі так паўтары суткі. Пасьля гэтага з вусьнямі зноў здарылася нязвычайная рэч. Скурка вусьня на хрыбце, пачынаючы ад галавы, разарвалася. Адтуль зьявіўся нейкі капшучок, які па свайму выгляду не паходзіў ні на вусьня, ні на матыля і павіс на павуціньне. Цэлых 15 дзён вісеў ён нярухома, ніякай стравы ня прымаў. Дзеці парашылі, што ён памёр ужо.

Але вось раніцай дзеці пачулі, як нехта б'ецца аб вакно. Тут яны ўбачылі матылька. Калі сталі прыглядацца да другіх капшучкоў, дык заўважылі, як некаторыя з іх рашчапіліся з аднаго канца на дзьве часткі. Адтуль выглядалі маладзенькія матылькі. Крыльцы іх шчыльна прылягалі да цела. Каля 4-х гадзін ляжалі яны нярухома, пасьля чаго матылькі замахалі крыльлямі і сталі лётаць. Дзеці былі рады, што выпладзілі матылёў, але радасьць гэта была ня зусім прыемная. Яны ўбачылі на вакне зьнішчаныя качаны капусты.

Вось тут зразумелі дзеці, што матылі зьяўляюцца для людзей вялікімі шкоднікамі і іх патрэбна зьнішчаць. Сорамна стала дзецям перад вераб'ём, які калісьці каля яблыні злавіў і зьеў матыля. Вася ня вытрымаў і запытаў у сястры:

— Цяпер ты будзеш плакаць па матылю, калі яго зьесьць верабей?

Нэля памаўчала і запытала Васю:

— А ты будзеш злавацца на птушак і страляць іх?

На другі дзень усе піонэры клюбу ведалі аб досьледах Нэлі і Васі. Кіраўнік фарпосту прапанаваў ім зрабіць даклад на гэту тэму на агульным сходзе піонэраў, які быў прызначан на суботу. На сход зьявіліся сваечасова ўсе піонэры. Вася з сшыткам у руках рабіў даклад. Нэля была садакладчыцай. На стале ў банцы ад варэньня, білася некалькі матылёў, якіх Нэля і Вася самі выпладзілі.

Даклад быў вельмі цікавы. Усе слухалі з захапленьнем. Пасьля дакладу была вынесена наступная прапанова:

1. Організаваць пры клюбе гурток юных натуралістых для вывучэньня шкоднікаў і прыяцеляў сельскай гаспадаркі.
2. Вылучыць кіраўніком гуртка Васю.
3. Заўтра правесьці ранішнік у клюбе па вырабу шпакоўніц.



Выхад матыля з кукалкі.

На другі дзень, у нядзелю, чуўся оркэстар музыкі, якую стварылі зыкі пілак, малаткоў, нажоў і рубанкаў. Усё гэта зьлівалася з таварыскай гутаркай, песьняй і заразьлівым сьмехам піонэраў.

**А. Поляк.**

# СЫМОНКА-РЫЗЫКАНТ.

Ня было таго дня, каб Сымонка ня лаяў сваіх дзядоў, якія пасяліліся за поўкілёмэтра ад ракі. Праўда, ля самай ракі разьляглося балота, а далей ішлі пяшчаныя ўзгоркі з рэдзенькім хваёвым ляском, але што да гэтага было нашаму гэрою?

— Ці не маглі яны з гэтага самага пяску насыпаць узгорак на беразе ракі,—разважаў ён,— ды пабудаваць хату, а то цягніся цяперака гэтак далёка.

— Ды навошта табе цягнуцца? сказала сястра Марыля.



— А крыгі зараз пойдуць!

— Эх, ты!—засьмяяўся брат. Пятрусь.—А яшчэ вучань 2-е клясы! Няўжо-ж дзеля крыгаў людзі будуць сяліцца ў дрэнным месцы?

Але Сымонка дарма скардзіўся. Як малодшаму ў сям'і, яму ўсе патуралі, усе любілі жвавага чарнявага хлопчыка. Увесь ён выдаўся ў бацьку, які аж да гэтага часу захаваў сваю ранейшую вайсковую выпраўку, нават заўсёды быў голены, што рэдка бывае сярод старых сялян. Ніхто не перашкаджаў Сымонку бегаць да ракі хоць кожны дзень.

Ён гэтым і карыстаўся і заразжа сабраўся ісьці пільнаваць крыгі.

— Пасядзі дома хоць сёньня!— буркнула маці.—Бачыш, які дзень хмарны: ні то дождж, ні то сьнег.

— А калі крыгі без мяне пойдуць?—крыкнуў Сымонка і выбег на вуліцу.

Ён так сьпяшаўся, што нават забыўся на сваіх сяброў, Кастуся і Рыгорку, з якімі заўсёды гуляў. Праз некалькі хвілін ён быў ужо ў ляску.

Тамака было зусім суха і выразна адчувалася, што непагадзь ужо прашла, што зараз прыдзе найлепшая пару году—лета. Веснавое сонейка грэла пяшчотна. Дубы, клёны, ліпы весела шумелі сваім лісьцем, нібы віталі вясну. Уверсе зьвінелі жаўранкі і нават недзе некалькі разоў пракукавала зязюля.

Вось ужо Сымонка на беразе ракі. А тамака ўжо трашчалі і гулі крыгі, штурхаліся, лезьлі адна на адну, станавіліся рубам. Сымонка аж закрычаў ад захапленьня.

Але вось на аднэй крызе нешта чарнеецца. Прыгледзеўся—авечка! Дрыжыць, пішчыць, соваецца сюды-туды, таго і глядзі, загіне. Шкада стала Сымонку беднай жывёліны. Ня доўга думаючы, ён памкнуўся ёй на дапамогу.

Але бераг быў такі стромкі, што нідзе нельга было даступіцца ракі. Ён пабег уздоўж берагу, авечка плыла побач і, на шчасьце, крыху набліжалася да берагу. Нарэшце, знайшоў зручнае месца і скокнуў на крыгу; захісталася яна пад ім, але ён ужо быў на другой, потым на трэцяй.

Вось ён ужо ля авечкі. Узрадавалася яна, замэкала, пасунулася да свайго збавіцеля, але крыга перакулілася, і яны абодвы апынуліся ў ледзяной вадзе. Зразумеў тады Сымонка, якое глупства ён зрабіў, забыўся ўжо пра авечку, пачаў чапляцца рукамі за лёд. Авечка-ж не магла чапляцца, ушчамілася між крыгамі, жалобна замэкала.

Сымонка, трымаючыся аднэй рукой за крыгу, другой ухапіўся за авечку, выцягнуў, падштурхнуў наперад, але зараз-жа сам нырнуў у ваду з галавой...

Загінуў-бы Сымонка, каб ня трапілі яны на заварот, дзе крыгі прыбіла да берагу. Вылез хлопчык на бераг, мокры, здубянелы, з сінякамі ад штуршкоў, выцягнуў і сваю авечку. Зьняў свой пасак, прывязаў ёй за рогі і як мага пабег да дому. Шапку ён згубіў; яго ільняныя валасы аж разьвяваліся ў паветры ад бегу.

Дома жахнуліся, калі даведаліся ў чым справа. Аднак, авечка ў гаспадарцы была да рэчы. Маці пачала ўжо меркаваць:

— Сёлета прыдзецца аддаць цябе ў школу, вось і будзеш мець свой уласны кажушок.

— Лепш было-б дачакацца ад яе маленькіх ягнятак,—заўважыла Марыля.—Мусіць, усе яны будуць такія беленькія, прыгожанькія, як маці.

Найбольш радаваўся маленькі Пятрусь. Ён нават хацеў сесьці вярхом на авечку, але ня мог узьлезьці.

Толькі бацька моўчкі гладзіў сваю густую бараду і, нарэшце, прамовіў:

— Біць-бы цябе трэба было за гэткае гэройства! А авечку прыдзецца аддаць гаспадару, калі ён знойдзецца.

**Янка Маўр.**

Ад рэдакцыі. Ці ўмееце вы чытаць кнігі ўважліва? Ці зьвярталі вы ўвагу на гэты самы важны бок у чытаньні? Праверце сябе на гэтым апавяданьні. У ім знарок дапушчана некалькі памылак, якія не адпавядаюць сэнсу і сапраўднасьці. Хто знойдзе ўсе гэтыя памылкі, таму мы вышлем прэміі: першая прэмія—кніга „У краіне райскай птушкі“— Я. Маўра (у продажы 1 р. 75 кап).

Асабліва гэтым варта зацікавіцца літгуртком і дзякорам. Усіх прэмій вызначана 5.

# ДА ЧАГО ЛЮДЗІ ДАДУМАЛІСЯ.

## САМЫ ВЯЛІЗАРНЫ МОСТ.



Нядаўна у Амэрыцы быў скончаны самы вялікі ў сьвеце мост. Мост мае 8,8 кілёмэтраў даўжыні і ўзьнімаецца на 45 мэтраў над узроўнем вады.

Пры такой вышыні параходы зусім вольна могуць праходзіць пад мастом.

Будаваўся мост усяго 8 месяцаў. На мал. мост паказаны зьверху.

## 25000 КІЛЁМЭТРАЎ У ГАДЗІНУ.

Праэкт стратасфэрнага самалёту, зроблены М. Вальле. Такія самалёты будуць лятаць на вышыні ў 50—75 кілём. з хуткасьцю да 25000 кілём. у гадзіну.



## ЦУКАР З ПІЛАВІНЬНЯ.

У Нямеччыне Фрыдрыхам Бергіўсам вынайдзены спосаб вырабу цукру з драўлянага пілавіньня. Хэмічны склад яго такі-ж самы, што і цукру з картафлянай патакі. Той цукар, які мы ўжываем, мае іншы хэмічны склад. Вось чаму ня трэба спадзявацца, што цукар з драўлянага пілавіньня зможа замяніць цукар, які здабываецца з цукровых буракоў, касьцей.

Аднак, ня гледзячы на гэта, вынаходства Бергіўса зьяўляецца вельмі важным, бо цукар з пілавіньня можа ўжывацца як вельмі каштоўны і танны корм для жывёлы.

## 1400 ГРАМ ВАЖЫЦЬ ЯЙЦО.



Стравусавы яйкі маюць 15 см. удоўжкі і важыць 1400 грам. Стравус—самая вялікая птушка на зямлі.

* * *

Самы маленькі цягнік зроблены адным венскім машыністым. Цягнік важыць 180 кілёграмаў і можа везьці каля 60 пудоў цяжару.

## ГРОЗНЫ—ТУАПСЭ.



Замест таго, каб перавозіць нафту ў цістэрнах (бочкі) з Грознага ў Туапсэ па чыгунцы, дадумаліся зрабіць іначай. Былі пракладзены паміж гэтымі двума гарадамі, амаль праз увесь Каўказ, вялікія трубы і па іх пераганялася нафта. Гэта абыходзіцца куды таней і хутчэй і лепш. У Туапсэ нафта проста наліваецца ў морскія судны і пасьля перавозіцца ў розныя краіны сьвету. На малюнку паказана зборка 16-дзюймовых трубаў для гэтага нафта-праваду.

## ЦІКАВЫ ЦЯГНІК.

*ВЫНАХОДЦА ЦЫКЛОЎСКІ НЯДАЎНА ВЫСТУПІЎ З СВАІМ ПРАЭКТАМ БЕСКАЛЁСНАГА ЦЯГНІКА, ЯКІ МОЖА ПРАХОДЗІЦЬ У ГАДЗІНУ 1000 КІЛЁМЭТРАЎ.*

*НІЯКІХ МАСТОЎ ДЛЯ ТАКОГА ЦЯГНІКА НЯ ТРЭБА, БО ЁН МОЖА ПЕРАЛЯТАЦЬ З АДНАГО БЕРАГУ НА ДРУГІ ХОЦЬ АБЫЯКОЙ ШЫРЫНІ РАКУ.*

## „КРАЙНАСЬЦІ СХОДЗЯЦЦА“.



На фотографіі—малпа шымпанзэ цалуе страшную зьмяю пітона.

* * *

Самы вялікі мост у СССР пабудаваны цераз раку Амур, даўжыня якога $2^1/_2$ кілёмэтры.




Апавяданьне вучня П. *ГІНТАЎТА*.

Малюнкі *А. ТЫЧЫНЫ*.

У адну цёплую летнюю ноч наша хэўра падшывальцаў наважыла зрабіць начное падарожжа.

Мы вышлі з пуні, дзе заўсёды спалі ўлетку, і накіраваліся проста да Антасёнкаў, каб сьпярша падражніцца з Лыскам, а пасьля яму адплаціць, што за лыткі ловіць у садзе...

Ля двара Антасёнкаў мы шпурнулі некалькі каменьняў у будку, дзе спаў Лыска.

Сабака выскачыў з будкі і кінуўся на нас. Мы ня струсілі і прывіталі яго градам каменьняў.

Лыска заяхкаў і пабег пад хату, а мы—пад рэчку па роснай траве... Ідзем мы каля рэчкі задаволеныя і сьмяемся, што Антось, вышаўшы на двор, галёкае на ўсё поле на воўка:—Туй-га, лаві—лаві яго, лаві!!! Думаў Антось, што воўк хацеў сабаку ўзяць...

— Давайце, хлопцы, нератоў Лаўруковых пашукаем, ён заўсёды іх тут ставіць,—падаў прапанову Марцін.

— Дык што-ж, давай!—адказалі мы.

Работа была цяжкая, трэба мацаць ваду каля берагоў. Хоць крыху абмачыліся, але знайшлі затое два нераты, у адным сядзеў вялікі мянтус. Мы яго дасталі і занесьлі ў лазовы куст, схавалі там яго, накідаўшы на яго травы, а каб ня трапятаўся, у Рыгора на гэта знайшлася вяровачка. Мы яго і прывязалі, а нераты паламалі і пакідалі ў рэчку. Самі пацягнуліся далей...

— Як добра хадзіць такой парой. Мы, як паўстанцы, ідзем, толькі бяз стрэльбаў,—сказаў я, паглядваючы даль...

— Мы і бяз іх справімся, пападзіся толькі воўк, дык кулакамі забілі-б,—адказаў Рыгор на мае словы, выяўляючы сьмеласьць у гэту ноч, а вечарам, як дома адзін, дык мыш страхам здаецца, калі заскрэбае дзе-небудзь у кутку...

Мы йшлі ўтраіх: я, Марцін і Рыгор.

З блакітнага неба сьмяяўся з нас месяц, а ў цёмным лесе залівалася кугаканьнем сава...

Наўкол ціха. Крыкнеш і тваё слова панясецца рэхам далёка, далёка і замрэ недзе ў далі. Луг увесь у кветках і пах кветак зьліваецца з сырым паветрам паплавоў у адзін прыемны лёгкі пах... Наўкруг разьлягліся палі і дрэмлюць пры сьвеце месяца. Лясы таемна паглядаюць у вочы, жабы гэльцаюць з-пад ног, а трава расіць ногі...

Па дарозе мы знайшлі на начлезе дзядзьку Кастуся; мы спусьцілі яго гнедага ў сенажаць, а ён хроп, закруціўшы тоўсты нос у бравэрку і ня чуў.

Ад дзядзькі Кастуся пашлі ў лес... Лес маўчаў... На малых палянках блішчэла на лісткох раса і чарнелі прысадзістыя паабрастаныя мохам пні.

— Давай песьню зацягнем,— кажа Рыгор.

— Не, ня можна трывожыць начной цішыні,—кажу я.

Прайшоўшы нейкі гушчар, мы вышлі на палянку, на якой пасьвіліся спутаныя коні, а начлежнікі спалі каля стухшага вогнішча. Гэта былі начлежнікі з другой вёскі.

Раптам прышла мне ў галаву думка.

— Давайце коняй распутаем, а пасьля ў лес прагонім, хай раніцай пагалёкаюць па лесе,—кажу я сваім сябром.

Пачалі лавіць і распутваць коняй... Я распутаў аднаго Каштанчыка, пасьля падняў з зямлі сук і пусьціў ім у каня. Каштанчык падскочыў уверх і паляцеў, зарзаўшы, аж зямля застагнала... Начлежнік адзін усхапіўся і стаў паглядваць наўкола.



*Пачалі лавіць і распутваць коняй.*

Вожык

ГУМАРЫСТЫЧНАЯ
ГАЗЭТА
ПІОНЭРАЎ
№ 9

## Добра зрабілі...

*(59 атрад, м. Леніна).*

З таго дню, калі атрад на ногі стаў, ён з кожным днём шпарка падрастаў. І асабліва ў гэтым атрадзе шмат было дзяўчат. Дзяўчаты працавалі, працавалі, а потым і годзе сказалі. Здарылася гэта зусім проста: дзяўчаты сталі перарасткамі. Ну, і пашлі, чамусьці, крывіць піонэрскую этыку—пачалі ўжываць касмэтыку: духі, пудру. Але ўсіх прылад „харaства“ я пералічаць ня буду, бо гэтыя ўкрасы можа кожны з вас пабачыць, часам, прайшоўшы завулкам ноччу: там вы пачуеце сьмех дзявочы, гэта піонэркі 59-га атраду (на вялікую нярадасьць) з хлопцамі ў пары ідуць па тратуары.

А ўсё бягуць дні, вось і вясны доўгажданай пачатак... Радасьць... Але, чамусьці, сумныя дзяўчаты. Сум-а ня радасьць: іх выключылі з атраду... Але, зразумела, лепш было-б, каб атрад выхаваў добра гэтых дзяўчат і перадаў у ячэйку комсамолу. Тады было-б і добра і вясёла.

## „Ні кала, ні двара“.

*(м. Ляды).*

У мястэчку Ляды піонэры аднаго атраду новаму сельсавету далі такі наказ:

1. Каб для дзяцей была лазьня кожны раз. І пісалі надта многа.

2. Каб пад піонэрскі клюб была аддадзена сінагога.

3. Каб забясьпечыць бедных вучняў кнігамі... І што-ж? Ляднянскі сельсавет забясьпечыў іх... фігамі. Ня даў ні кала, ні двара, і хоць піонэры падымалі аб гэтым пытаньне ня раз, сельсаветчыкі як-бы і ня чуюць. І называецца працуюць! Вось дык удалая штучка! Дык прышпіляю-ж я Ляднянскаму сельсавету вострую калючку.

## Няма чым даказаць.

У мястэчку Расасьне то-ж справа ня клеіцца неяк.

Калі землеўпарадкаваньне правялі, то школе 3,25 гэктары зямлі далі. Але праца зайшла ў гнілую затоку: загадчык школы Касмакоў Фока здаў гэтую зямлю ў арэнду на 6 год. Ён лічыць, мабыць, што гэта ўласнасьць яго. От тут і рабі што хочаш! Мала таго, што даклад прылапочаш, тут трэба даказаць і на справе. Паказальны вучастак трэба збудаваць, тады будзе чым сялянству аб добрай працы на полі даказаць, тады і праца пачне расьцьвітаць.

## Што пішуць піонэры.

З мястэчка *Бялынічы* пішуць, што ў атрадзе іх не заўважваецца дрэнных адносін да працы з боку павадыра, як гэта пісалася ў № 24 „БП“ у „Вожыку“.

Ну і добра. У такім выпадку зьнімаю калючку і папярэджваю, каб праца йшла добра, а то зноў прычаплю.

З мястэчка *Ляды* пішуць, што піонэры іхняга атраду гальштукі носяць, павадыр Кальянава працуе добра.

Гэта таксама добра, дрэнна толькі тое, што ў гэтым атрадзе піонэркі надта пудрацца. У выніку гэтага калючкі ня зьнімаю, а прапаную зьнішчыць пудру сярод піонэраў, тады і калючка спадзе.

**Ваш**



---

Я скамандаваў уцякаць.

— Зладзеі, зладзеі!—закрычаў начлежнік, і ўсе начлежнікі паўсхватваліся і пагналіся за намі, крычачы:

— Страляй іх, страляй!

Аж рэха каціласяпа лесе. Мы ўцякалі па ламох, ранячы сабе ногі і чапляючыся адзеньнем за сукі. Нарэшце мы рассыпаліся куды хто. Я неяк збочыў і выскачыў на нейкую глухую сьцежку, тут я пашоў паволі, бо я ведаў, што начлежнікі далёка. Што рабілася з маімі „паўстанцамі“, я ня ведаў. Мяне аднаго агарнуў у лесе страх, кожны маленькі шэлест пужаў мяне. Я сьціснуў мацней у руках ядловы сук і хутчэй пасігаў...

Гэтая сьцежка вывела мяне на вясковае поле, куды я і хацеў. Я пачаў аглядаць сябе: у рубашцы былі дзьве дзіркі, на шчацэ быў вялікі шрам, а ногі, паабдзіраныя, як у вагні гарэлі. Я пачаў гукаць і зваць хлапцоў. Скора з лесу вышаў Марцін з разьбітым носам.

— Дзе Рыгор?—спытаў я.

— Ня ведаю...—адказаў ён перапалоханым голасам.

Нарэшце адшукалі і Рыгора. У яго адно вока было зачынена і ён кульгаў, мабыць, недзе ўдарыў нагу.

Ён маўчаў, мы глядзелі на яго і нам было сорамна, мы шкадавалі, каб хаця не астаўся сьляпым.

Па дарозе мы не гаварылі. У кожнага была свая думка, і нам было сорам глянуць адзін аднаму ў вочы...

Калі мы прышлі да пуні, то зара была на ўсходзе... У лесе пачынала шчабятаць нейкая ранняя птушка і недзе ў полі сьпяваў весела жаўранак. Туман на паплавох стаў гусьцець. Я глянуў на паплавы пад рэчку і мне ўспомніліся нераты, мянтус, але ўжо не хацелася бегчы за ім. Я доўга стаяў ля пуні і думаў... Рыгор ня выходзіў з галавы,—мне хацелася бегчы перапрасіць, можа ён злуе на мяне, усе вінаваты... А што будзе, калі Рыгор застанецца сьляпым ад нашай пагулянкі, як гэта прыдзецца глядзецца нам у вочы, чаму гэта я ня выкалаў вока, а ён... бедны Рыгор... І мне стала так шкода яго, што, здаецца, усё сьціснулася ў сярэдзіне і чуць ня хлынулі з вачэй сьлёзы. Я хутка пабег у пуню, укапаўся ў сена і заснуў.

Праз нашае злачынства Рыгор застаўся бяз вока.






## Агонь—мастак.

Вы бярыце некалькі белых, зусім чыстых лісткоў паперы. Вы паказваеце лісткі сваім таварышом, яны пераконваюцца, што сапраўды лісткі чыстыя, апрача маленькай цёмнай кропкі, якая



ёсьць на кожным лістку. Вы бярыце потым адзін лісток, дакранаецеся агнём ад запалкі да цёмнай кропкі, агонь заблішчаў і пабег па вашай паперцы, пакідаючы тоненькі чорны сьлед—выпаленае месца. Агонь ня тухне, а бяжыць усё далей і не абыяк, а малюе пэўны знаёмы вам абрыс. Нарэшце агонь тухне, шлях яго скончыўся, а перад вамі на паперцы малюнак сабакі, каня або яшчэ там які. Дзівяцца вашы таварышы з фокуса.

У чым-жа рэч?

Спачатку вы бярыце лісткі звычайнай паперы (мяккай) і малюйце на іх розныя фігуркі. Маляваць трэба не алоўкам ці чарнілам. Дзеля гэтага трэба ўзяць крышку *калійнай салетры* (дастаць можна ў аптэцы) і распусьціць яе ў чайнай лыжцы цёплай вады, а потым тонка завостраным гусіным пяром, макаючы ў распушчаную салетру, нарысаваць пэўныя фігуркі.

Калі малюнак высахне, яго нельга будзе заўважыць, а таму не забудзься зрабіць паметку, дзе пачынаецца лінія малюнка, каб ведаць, дзе дакрануцца агнём.

### Жарты.

— Як моцна ён картавіць!

— Што, заўсёды з ім так бывае?

— Не, калі толькі гаворыць.

———

— Ты, Янка, танцуеш?

— Так, бывае танцую, калі бацька бярэ папружку ў рукі...

### Загадкі - жарты.

— Па якой дарозе паўгода ходзяць, паўгода езьдзяць.

— Ног многа, а еду дамоў з поля на сьпіне.



*Куды пахаваліся зладзеі?*
*І колькі іх?*

### Народныя загадкі.

1. Ходзіць курка-жаўтушка па сьцяне і ня шастае.

2. Крыкнуў вол на сто вазёр, на сто міль, на ўвесь мір.

3. Па беленькай жэрдачцы красьненькі пятушок скача.

4. Сівы вол выпіў вады дол.

5. Чорная карова ўсіх людзей пакалола, а белая ўстала—усіх людзей пападнімала.

6. На паліцы дзьве лісіцы, што дадуць, то й зьядуць.

7. Зялёная ды ня елка, чырвоная ды ня дзеўка, з хвастом ды ня мыш.

8. У маі вылецела птушка злая, хто яе заб'е—сваю кроў праліе.



*У каго ён страляе?*

*Ці ня можаце вы растлумачыць, чаму ён адначасна мерыцца ў кожнага, хто на яго глядзіць?*

9. На вагні не гарыць, на вадзе не тане і на саломе ня шастае.

10. Ляжыць калода пасярод балота ні гніе, ні сохне.

11. Тонак, як паясок, мой гостранькі насок. Як выходжуваяваці супроць высокіх дзяцюкоў у злаце—яны на мяне лезуць, а мае зубкі іх рэжуць.

(Адказы на ўсе загадкі будуць зьмешчаны ў наступных нумарох).

## Адказы на задачы.

**№ 6 „Б. П.“.**

**Чаму крычыць дзяўчынка?** Дзяўчынка топіцца. Але мастак забыўся намаляваць сьпераду ваду.

**Загадка.** Самалёт.

**№ 7 „Б. П.“.**

Задача № 1. Склады будуць такія: па—шы—рай—на—шу—ча—со—пі—сь. А лёзунг адсюль вядомы.

**Задача № 2.** Злажыць балалайку простая штука. Гриф вы зробіце з частак 4,6,5. Дэку: з 1. 2. 3.

**Задача № 3.** „Клумак з кніжкамі шад пахай, думак поўна галава“.

**Лёгарыф № 4.** Дуб—зуб—куб.

**№ 8 „Б. П.“.**

**Ланцужок з складоў.** Склады будуць такія (па парадку): ба. ма, ма, га.

**Прачытайце лёзунг.** Будзе такі лёзунг: „Пашырай нашу часопісь“.

---

**Паклапаціся загадзя, каб атрымліваць усё лета**
**—) часопісь (—**
**„БЕЛАРУСКІ ПІОНЭР“—**
**не забудзься выпісаць часопісь.**

Друкарня „БДВ“. Зак. № 2647. У ліку 1900 экз. Галоўлітбел № 1538.